


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

ТРАВЕНЬ 2015 г. № 2 (52)

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**В марте текущего года в экономике Могилевской области** было занято 469,7 тыс. человек, что на 1,7% меньше, чем в марте 2014-го. По данным комитета по труду, занятости и соцзащите Могилевского облисполкома численность безработных, зарегистрированных в органах по труду, занятости и социальной защите, на конец марта 2015 года составила 5 тыс. человек, что на 3,4% больше, чем на конец февраля. На 100 заявленных вакансий приходилось 177 безработных, зарегистрированных в органах по труду, занятости и социальной защите (на конец марта 2014 г. – 45 человек), сообщили в отделе статистики труда Главного статуправления области.

**Численность населения Могилевской области** на 1 апреля 2015 г. составила 1 069,5 тыс. человек и по сравнению с началом 2015 г. уменьшилась на 1 143 человека.

Естественная убыль населения в январе-марте 2015 г. составила 891 человек и по сравнению с соответствующим периодом 2014 г. увеличилась на 227 человек, или на 34,2%.

За отчетный период миграционная убыль населения составила 252 человека и уменьшилась по сравнению с январем-мартом 2014 г. на 352 человека, или на 58,3%.

**В 1 квартале 2015 г.** организациями торговли Могилёвской области реализовано алкогольных напитков и пива на 735,2 млр. рублей, что в розничном товарообороте организаций торговли составило 12,4%, в объёме продаж организациями торговли продовольственных товаров – 20,2%.

# ПАРА ЗАПРАШАЦЬ ЛУКАШЭНКУ Ў ШКЛОЎ

**26 красавіка 2015 года А.Лукашэнка наведаў Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці, як адзін з рэгіёнаў, пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі ў 1986 годзе. За час наведвання раёна ён пабываў на шматлікіх аб'ектах г. Слаўгарада, сустрэўся з гараджанамі, ветэранамі вайны.**



Пасля яго ад'езду са Слаўгарада мне ўдалося паразмаўляць з гараджанамі і нават з адным непасрэдным удзельнікам сустрэчы з кіраўніком краіны. Слаўгарадцы выказалі розныя ўражанні аб гэтым мерапрыемстве, але ў адным іх погляды цалкам супалі – гэта ў тым, што жыхары горада, мясцовыя ўлады вельмі прыстойна падрыхтавалі горад для сустрэчы высокага госця і што горад Слаўгарад так шыкоўна ніколі раней не выглядаў.

Так склалася, што ў Слаўгарадзе за ўсе часы незалежнасці краіны не праводзіліся вялікія мерапрыемствы дзяржаўнага маштабу. У эканоміку, інфраструктуру, добраўпарадкаванне раёна не ўкладаліся аграмадныя бюджэтныя сродкі, як гэта было ў іншых рэгіёнах. Але жыхарам раёна, мясцоваму кіраўніцтву пры мінімальных фінансавых укладаннях з бюджэту ўдалося зрабіць так, што горад стаў выглядаць не горш, а нават і лепей за іншыя гарады, дзе ў розныя гады праліваліся грашовыя "дажджы" на добраўпарадкаванне тэрыторый.

А ўжо 2 мая 2015 года А. Лукашэнка ў чарговы раз за апошнія месяцы наведаў Шклоўшчыну, дзе ў яго адбылася нарада па пытаннях развіцця фермерства. Мы не можам канстатаваць, ці звярнуў ён увагу на гэты раз на стан добраўпарадкавання горада, праязджаючы праз Шклоў на Александрыю, але, калі звярнуў, то адназначна павінен быў заўважыць, як змянілася сітуацыя з добраўпарадкаваннем у негатыўны бок.

*(Заканчэнне на стар. 2)*




## ПАРА ЗАПРАШАЦЬ ЛУКАШЭНКУ Ў ШКЛОЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

У адным з нумароў “Паходні” за красавік 2015 г. рэдакцыя газеты ўздымала гэтае пытанне і раённыя ўлады станоўча адрэагавалі на крытычны матэрыял па размешчаных ў газеце канкрэтных фактах нядбайнага выкарыстання дзяржаўнай маёмасці, часткова прыняўшы меры па выпраўленню сітуацыі на ўказаных камунальных аб’ектах. Але, нажаль, надалей справа не пайшла.

Відаць, усё пагалоўна кіраўніцтва Шклоўскага райвыканкама і Жылкамгаса з нядаўняга часу носяць нейкія “ружовыя” акуляры, што скажаюць іх зрок і не дазваляюць бачыць рэальны стан рэчаў.

Ну як можна, напрыклад, рамантаваць сцены гарадской лазні, не ліквідаваўшы прычыны гэтых разбурэнняў. Бо, для прыкладу, ужо колькі год на сценах лазні растуць бярозкі, якія сваімі каранямі развальваюць структуру цэглы.

А можа быць гэта асваенне кіраўніцтвам ЖКГ і райвыканкама новага спосабу нарыхтоўкі венікаў?

Прывяду яшчэ прыклады, якія проста немагчыма абмінуць…

У сакавіку 2015 года з вялікай пампезнасцю быў адчынены новы магазін “Родны кут” па адрасе вул. Дзікуна, 26 у Шклове. На адкрыцці прысутнічалі старшыня райвыканкаму Бойка, яго намеснік Гузаў, кіраўніцтва райспажыўсаюзу, іншае чынавенства, былі запрошаны прадстаўнікі тэлебачання, радыё, газет. Гараджанам адкрыццё гэтага шэрагова аб’екту - магазіна было прыпаднесена, як вялікае дасягненне мясцовых уладаў.

І той, хто быў на адкрыцці і бачыў толькі фасадную частку аб’екту, быў з большага задаволены. Але ж варта было зазірнуць з супрацьлеглага, тыльнага боку аб’екта, то можна было заўважыць і кучы смецця, і незавершанае добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол будынка. І самае прыкрае, што пры пракладцы камунікацый да магазіна будаўнікамі была пашкоджана, ды так і не адноўлена, дабротная тратуарная дарожка да жылога дома.

У Шклове ўжо, відаць, закладзена традыцыя – пры будаўніцтве аднаго аб’екта – ламаць іншыя.

Складваецца ўражанне, што шклоўскае чынавенства днямі сядзіць у сваіх кабінетах, або шастае па горадзе ў службовых аўтамабілях, не бачачы, што дзеецца ў горадзе. Нават заробкі ім, мабыць, прыносяць у кабінеты на працоўнае месца. Бо, каб яны атрымлівалі іх па картках, то заўважылі б, што дзееца на вуліцы ў раёне аграпрамбанка.

Відаць, каб яно заварушылася, неабходны прыезд у горад кіраўніка дзяржавы, дзе б ён мог пахадзіць па вуліцах, сустрэцца з жыхарамі і ў выніку зрабіць неабходныя высновы. Па іншаму нашае чынавенства працаваць не ўмее.

Таму, паважаныя шклаўчане, давайце прапануем кіраўніку краіны, каб і ён не проста праязджаў праз горад па маршруце на Александрыю, а зрэдку выходзіў з машыны і праходзіўся пешшу па вуліцах горада.

Глядзіш, і ад яго прыездаў на радзіму шклаўчанам будзе карысць.

***Рыгор Кастусёў***

## РОМАНТИЧЕСКИЙ ПОСТУПОК ВЫЛИЛСЯ ЖИТЕЛЮ БЕЛЫНИЧСКОГО РАЙОНА В КРУПНЫЙ ШТРАФ

За романтический поступок житель Белыничского района заплатит крупный штраф. Об этом сообщается на сайте УВД Могилевского облисполкома.

22-летний житель агрогородка Ланьков хотел, чтобы возлюбленная узнала о его чувствах. Для этого он с друзьями во дворе ее дома нарисовал на асфальте бензином, смешанным с маслом, сердце. Планировал поджечь изображение. О повреждении асфальта и возможности пожара, так как рядом была припаркована машина, молодые люди не задумывались. Опасаясь за авто своей дочери, местная жительница вызвала милицию. Романтик теперь должен выплатить 15 базовых величин штрафа, а это 2,7 млн. рублей.

**В Могилёвской области** в ряде случаев даже построенное с государственной поддержкой жилье остается незаселенным. Сегодня в сельхозорганизациях области по разным причинам без жильцов остаются 87 домов – в Белыничском, Бобруйском, Быховском, Глусском, Горецком, Кличевском, Кричевском, Круглянском, Могилевском, Мстиславском, Хотимском, Чериковском и Чаусском районах. При этом незанятый жилищный фонд вследствие безответственного отношения к сохранности приходит в негодность, сообщает прокуратура области.

## Штраф за ложное сообщение в милицию заплатит житель Большой Мощаницы

За заведомо ложное сообщение в милицию житель агрогородка Большая Мощаница Белыничского района заплатит штраф. Мужчина сообщил в милицию, что со двора его дома похищен автомобиль «Фольксваген Гольф». Приехавшая на место происшествия следственно-оперативная группа выяснила, что машину никто не похищал.

Как сообщил временно исполняющий обязанности старшего инспектора по административной практике ОГАИ Белыничского РОВД Андрей Патюпин, незадолго до этого владелец автомобиля был лишен прав. Но, тем не менее, вместе с друзьями прокатился на «Фольксвагене» и решил, что его заметили сотрудники ГАИ. Чтобы избежать наказания, он спрятал автомобиль в лесу и позвонил в РОВД с сообщением о краже.

В отношении мужчины составлен административный протокол за ложный вызов милиции, сообщает uvd.mogilev.by.

# КРУГЛАЕ: КУДЫ ПАДЗЕЦЦА "ДАРМАЕДАМ"?

**У гарадскім пасёлку Круглае Магілёўскай вобласці ў сярэдзіне красавіка адбыўся семінар на тэму "Практыка працы органаў дзяржаўнага кіравання па рэалізацыі дзяржаўнай кадравай палітыкі", удзел у якім прынялі асобы, уключаныя ў рэзерв кіруючых кадраў Круглянскага райвыканкама, і прадстаўнікі абласной і раённай "вертыкалі".**




Як паведамляла круглянская раённая газета "Сельскае жыццё", перад удзельнікамі семінара выступіла і распавяла пра асноўныя тэндэнцыі на рынку працы Магілёўскай вобласці начальнік упраўлення занятасці насельніцтва камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Магілёўскага аблвыканкама Вольга Хадускіна. Спадарыня Хадускіна, у прыватнасці, праінфармавала прысутных пра тое, што ў выніку маніторынга па выяўленню непрацуючых грамадзянаў па Магілёўскай вобласці такіх было налічана каля 42 тысяч чалавек. У Круглянскім раёне гэта лічба склала парадку 1,3 тысячы чалавек. Па словах чыноўніцы, апошнім часам назіраецца рост зваротаў грамадзян у службы занятасці, што выклікае за сабой рэзкае зніжэнне колькасці заяўленых вакансій. Банк вакансій Магілёўскай вобласці сёння ўтрымлівае ўсяго 2,5 тысячы працоўных месцаў (у сярэднім на адно працоўнае месца прэтэндуюць два і больш сушукальніка).

Згодна сайта Міністэрства працы і сацыяльнай абароны РБ, па стане на 1-га траўня 2015 г. у Круглянскім раёне налічваецца 23 працоўныя вакансіі з 31 вольнымі месцамі. Заработная плата, якая прапануецца на гэтых працоўных месцах, складае ад 1 100 000 да 2 455 000 рублёў, і толькі на адным вольным працоўным месцы загадчыка аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў у Круглянскім раённым цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва спецыялісту з вышэйшай адукацыяй прапануюць 4 500 000 рублёў.

Згодна дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта РБ, па стане на 1 студзеня 2015 года ў Круглянскім раёне пражывала 14 386 чалавек.

Па дадзеных упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароны Круглянскага райвыканкама, па стане на 1 верасня 2014 года ў эканоміцы раёна было занята 6017 чалавек, афіцыйна на ўліку стаяла 18 беспрацоўных. Тады ж круглянскія чыноўнікі налічылі, што ў цэлым па Круглянскім раёне эканамічна неактыўнае насельніцтва з ліку людзей працаздольнага ўзросту складае каля 1859 чалавек. Зараз высветлілася, што з гэтай агульнай колькасці эканамічна неактыўнага насельніцтва парадку 1,3 тысячы чалавек у Круглянскім раёне падпадаюць пад крытэрый "дармаедаў".

Вельмі цікава, куды гэтым людзям уладкавацца на працу, каб не быць гэтымі самымі дармаедамі, калі ва ўсім Круглянскім раёне ёсць толькі 31 вольнае працоўнае месца, да таго ж з вельмі смешнымі заробкамі?

Нагадаем, што ў Круглянскім раёне за апошнія гады перасталі працаваць цэлы шэраг прадпрыемстваў - льнозавод, маслазавод, хлебзавод, райспажыўсаюз, сельгасхімія, Ракушыцкая птушкафабрыка, цагляны завод, Круглянская школа-інтэрнат, рэарганізавана шэраг калгасаў і саўгасаў. У адзінага прадпрыемства ў райцэнтры, якое раней стабільна працавала - мясцовага будаўнічага ПМК -266, зараз узніклі вялікія праблемы з забеспячэннем неабходнай колькасці замоваў на выкананне будаўнічых работ, у сувязі з чым заробкі працаўнікоў рэзка скараціліся.

*Барыс Вырвіч*

## Криминал в Круглом

29 апреля Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 2 УК (Кража) в отношении ранее неоднократно судимого за совершение краж жителя д. Тетерино, 1964 г.р., который 20 апреля из сарая односельчанина, пенсионера, 1959 г.р. путем свободного доступа похитил велосипед «Аист». Похищенное изъято. Раскрыто ОУР.

## И конфискация в Шклове

22 апреля на центральном рынке г. Шклова по ул. Ленинской ГБЭП, ИМНС в торговом павильоне индивидуального предпринимателя, жительницы г. Шклова, 1972 г.р., выявлен факт реализации непродовольственных товаров (джинсы, платья, ремни и другие) на сумму 15 250 000 руб. без документов, подтверждающих легальность приобретения. Товар изъят. Составлен административный протокол по ст. 12.17 ч.4 КоАП, сообщает uvd.mogilev.by.

# СО СЛЕЗАМИ НА ГЛАЗАХ

**Этот день я запомнила на всю жизнь. Нет, это не 9 мая, хотя он связан с празднованием Дня Победы. В этот день, я точной даты не помню, я пошла в местный «Универсам», где купила около килограмма «кооперативной» колбасы за 5 рублей 20 копеек. Каково же было моё удивление, когда я увидела, что из кабинета завмагазина вышел энергичный молодой человек, из делового портфеля которого выглядывала точно такая же колбаса, с оценочной лентой вдоль, на которой было написано, как и на моей, цена 2руб20коп. Но за целую палку колбасы чиновник заплатил столько же, как я за отрезанный кусок. Естественно, что я поинтересовалась данным несоответствием. Вот здесь всё и началось, а закончилось почти через 4 года. И «давили» меня сначала всем районом, потом областью, а потом уже в кабинете Совета министров БССР какой-то мелкий чиновничек, на приём к которому я попала, открытым текстом сказал: «Зачем вы сюда приехали? Вы знаете, какую «золотую жилу» вы нам закрыли!» Комментарии, как говорится, излишни.**



*Зинаида Милещенко*

Я не стану называть имени заведующей, потому что если бы не она, был бы кто-то другой, но обман покупателей всё равно был бы. Омерзительней другое, круглянские чиновники попутно с воровством и мошенничеством, которое было на общереспубликанском уровне, обирали ветеранов ВОВ. И всё это делалось без зазрения совести. Наше поколение помнит, как трудно было с продуктами в те годы конца семидесятых, начало восьмидесятых. При расследовании этого инцидента выяснилось, что наши ветераны не получали «паёк», который для них выделялся. Всё поедалось местным чиновничеством.

Победа в той войне для меня была святой, как и для многих моего поколения. И циничность происходящего в нашем районе меня потрясло. Я без оглядки отдалась борьбе за права этих людей, благодаря которым была эта святая Победа. Я не знала тогда, что против меня встанет «вся королевская рать». То, через что я прошла, страшнее войны. Убить меня пытались не только физически, но что ужаснее, духовно. Со всей откровенностью мне давали понять, что это не моё дело. Всё, во что я свято верила, что вложили в меня родители и учителя, всё было попрано за те страшных четыре года. Я прошла к своей «победе» через газеты и многие приёмные, включая приемную ЦК Партии в Москве. Магазин в Круглом для ветеранов открыли! Выдачу пайков наладили, но за отобранный кусок, в который входила не только колбаса, я прошла все «круги ада», которые невозможно даже представить. Я была одна в своей борьбе, и выжить мне помогала моя Великая Вера в наш строй. «Нам солнца не надо – нам партия светит, и хлеба не надо – работу давай». Чем меня только «не пугали»! «Прокатили» с работой по всем организациям. Пытались убить в подсобном помещении гаража ПМК-116, на территории которого я проживала с семьёй в недостроенной конторе. Были проблемы с получением квартиры, с последующим трудоустройством. Готовились документы, чтобы поместить меня в «психушку». А сколько кабинетов мне пришлось пройти от государственных органов до правоохранительных. И во скольких кабинетах мне было отказано в доступе «к телу» того или иного «большого» чиновника. К примеру, чтобы понять, как это было, я приведу единственное: трое суток вместе со старшим 12-летним сыном я прождала, греясь, на решётках в московском метро, чтобы записаться и попасть на приём в ЦК партии КПСС. Это был январь 1985 года. К слову сказать, там я узнала о депортации крымских татар. Они подавали заявления о возвращении на Родину. Было собрано, как я поняла, тысячи подписей.

Я вернулась в Круглое, а мои документы уже были пересланы в райком партии. И завертелось. Тут меня не бил только ленивый. Знакомые переходили на другую сторону улицы, чтобы не увидели, что они со мной здороваются. Чиновники грозили посадить за тунеядство, попутно отказывая мне в приёме на работу во всех организациях, притом изощрённым методом. А у меня было трое детей, двоим из которых не было и трёх лет. Рядом оставались только родители и муж, который, не смотря на своё криминальное прошлое, не испугался угроз и не предал меня ни разу. А какие только провокации не были. Я испытала даже то, что испытывали наши люди в годы войны – голод. Я падала в голодные обмороки. Я ходила в уценённых обносках…

И здесь грянула перестройка! И я «выплыла»! Я выжила! Областной прокуратурой я была восстановлена на работе, потому что приехал прокурор – ветеран войны. Я получила трёхкомнатную квартиру, правда, страшно изуродованную (потом смеялись,

*(Окончание на стр. 5)*

## СО СЛЕЗАМИ НА ГЛАЗАХ

*(Оконч. Начало на стр. 4)*

что я чуть не упала, увидев её.) Но крыша над головой у меня была! И самое главное, я была приглашена на новое место работы. Меня выбрал коллектив своим, пусть маленьким, но руководителем! Я возрождалась, как «Феникс из пепла». Я снова верила! Я снова была готова к борьбе!..

…И до сих пор я несу «этот крест», но сейчас он мне уже не давит на плечи. Я даже благодарно судьбе за него!!

А что же те, кто «жрал» ветеранские пайки? Кто-то пошёл на повышение, некоторые остались в районе, кто-то в области, кто-то в Минске. Те, что ещё живы, будут стоять на параде Победы и «чествовать» оставшихся ветеранов за их мужество. И вспоминать Сталина.

«Всё те же лица, были что когда-то,
Что правили и миром и судьбой…
Вы хорошо пристроились, ребята,
За сталинской доскою гробовой!»

С ПРАЗДНИКОМ, ВЕТЕРАНЫ! С ПРАЗДНИКОМ, ЧЕСТНЫЕ ЛЮДИ!

***Зинаида Милещенко***



# ЯН КАРАЛЬ ХАДКЕВІЧ

## (455 гадоў з дня нараджэння)

**Ян Караль Хадкевіч (1560 — 24 верасня 1621) — вайсковы і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Гетман вялікі літоўскі (1605), ваявода віленскі (1616). Прадстаўнік старажытнага магнацкага роду Хадкевічаў, што паходзіў ад кіеўскіх баяраў (XV ст.). Належаў да найстарэйшай, быхаўскай, галіны роду і ад бацькі атрымаў у спадчыну тытул графа «на Шклове, Мышы і Быхаве».**



*Ян Караль Хадкевіч*

Ян Караль Хадкевіч — адзін з найбольш таленавітых вайскаводаў XVII стагоддзя. У сваёй палітычнай дзейнасці адстойваў суверэнітэт Вялікага Княства. У родзе Хадкевічаў існавала традыцыя актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Бацька Яна Караля, Ян (1537—1579), быў кашталянам віленскім (сенатарам) і адміністратарам Інфлянтаў. У 1568 годзе ён атрымаў ад імпэратара Святой Рымскай імпэрыі Фэрдынанда тытул графа з назвамі галоўных маёнткаў — Шклова, Мышы і Быхава. Дзед вядомага вайскавода, Геранім Хадкевіч (1500—1561), быў кашталянам віленскім і ўваходзіў у склад Рады Вялікага Княства Літоўскага. А брат дзеда, Рыгор Хадкевіч, быў кашталянам віленскім і гетманам вялікім літоўскім. Гэтыя традыцыі роду, багатыя лятыфундыі, галоўным чынам на Беларусі, давалі магчымасць здольнаму і амбітнаму чалавеку рабіць сваю кар'еру.

Дзяцінства Яна Караля праходзіла ў часы Інфлянцкай вайны. Ён быў сведкам ваенных дзеянняў на Літве і Балтыцы і вельмі цікавіўся вайсковай справай. Калі хлопчыку было некалькі гадоў, бацька ўзяў яго ў паход супраць маскоўскіх войскаў Івана Жахлівага, што ўварваліся ў Літву. Пасля папярэдняй хатняй адукацыі ў 1573 годзе Ян Караль разам са сваім старэйшым братам Аляксандрам, распачаў навучаньне ў Віленскай езуіцкай калегіі, а потым і ў Віленскай акадэміі. Калі кароль і вялікі князь Стэфан Баторы ў сакавіку 1579 году праязджаў праз Вільню з войскам, каб вярнуць захоплены Маскоўскім войскам Полацк, ад імя студэнтаў акадэміі яго вітаў малады Ян Караль Хадкевіч урачыстай прамовай. Ён вылучаўся сваёй здольнасцю да навукі і ўжо тады меў моцны характар. Пасля смерці бацькі атрымаў у спадчыну ня толькі маёнткі, але і тытул графа на Шклове, Мышы і Быхаве. Потым была вучоба за мяжой, дзе Ян Караль Хадкевіч, апрача акадэмічнага курсу, шмат увагі прысвячаў вайсковым ведам і тэорыі вайсковай справы.

Па вяртанні на радзіму ў 1590 годзе Ян Караль Хадкевіч зрабіўся вайскоўцам. Ужо ў 1595 годзе ён камандаваў уласнай ротай з 50 коннікаў, а потым — ротай у 100 коннікаў ва Украіне. У 1596 годзе Я. К. Хадкевіч удзельнічаў у баях з войскам Севярына Налівайкі, дзе выявіў свой вайсковы талент. За свае вайсковыя заслугі Я. К. Хадкевіч атрымаў пасаду падчашага літоўскага, а праз тры гады, у 1599 годзе, яму было нададзена Жамойцкае староства, што раўнялася ваяводскай пасадзе, і ён увайшоў, такім чынам, у склад сенату Рэчы Паспалітай.

У 1600 годзе Ян Караль Хадкевіч на чале ўласнай коннай роты ўдзельнічаў у паходзе гетмана Яна Замойскага ў Малдову, якую заняў гаспадар Валахіі Міхай Мужны (Віцязул). Бітва войска

*(Працяг на стар. 7)*

# ДА ДНЯ ЧАРНОБЫЛЯ

**Кожны дзень аднosіць нас усё на большую адлеглась ад таго трагічнага выбуху, які здарыўся на Чарнобыльскай АЭС у ноч 26 красавіка 1986 года.**




Праз некаторы час пасля здарэньня я па нейкіх справах апынуўся ў абласным цэнтры ў горадзе Магілёве. Быў веснавы дзень. Сонейка прыемна прыгравала плечы. Птушачкі заліваліся сваім шчабятаннем ў свежай зеляніне дрэў. Здавалася, нішто не напамінала аб навале, якая накрыла сваім чорным крылом нашу краіну. Як заўжды, на вуліцах абласной сталіцы прадавалі, як зараз памятую, піражкі, вэнджаную рыбу. Але, на што нельга было не звярнуць увагі, людзі хадзілі па вуліцы з апушчанымі долу вачыма, нібыта на сваёй шыі неслі цяжкі груз.

Мінула ўжо дваццаць дзевяць год пасля трагічнай падзеі, але ў памяці яскрава, нібыта на экране, бачны ўсё тыя хмурыя, ўстрывожаныя твары людзей у тыя першыя чарнобыльскія дні. Ад гэтага сэрцу трывожна і сёння.

Памяць-памяць! Такі механізм, які рэгуліроўцы аніякім чынам не паддаецца. Ні ўручную, ні аўтаматычна. Гэта, так бы мовіць, код чалавека, ключ пад які не падбярэш. І ў кожнага чалавека гэтая самая памяць розная: ў адных яна длінная і цэпкая, а ў іншых - зусім кароткая, а мо і аніякая...

Частка людзей успрыняла чарнобыльскія падзеі балюча і трагічна на ўсё жыцьцё, іншая частка, можна сказаць, плюнала на ўсё, махнула рукой і працягваюць жыць, нібыта нічога страшэннага і не здарылася.

Але час ляціць. І хочам мы ці ня хочам, а на каляндары чорная метка адзначана. І застанецца яна ўжо для чалавецтва назаўжды.

Для цывілізаванага люду гэтая метка зусім не пусты гук. Людзі ведаюць, што такое радыяцыя і які уплыў яна аказвае на жывы арганізм. Яны турбуюцца за сваіх нашчадкаў і таму праводзяць акцыі: мітынгі, пікеты, іншыя масавыя мерапрыемствы, каб прыцягнуць увагу грамадства нашай планеты да сур’ёзнай праблематыкі, якую нам прыпаднесла дваццатае стагодздзе.

Што тычыцца нашай краіны, нашай нацыі, то на дзяржаўным узроўні трэба было б біць ва ўсе званы, шукаць паратунку, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя сродкі. Падвышаць узровень дасведчанасці нашых грамадзян у сферы радыяцыйнай бяспекі. Тлумачыць людзям, каб яны былі пільнымі, асцярожнымі ў сваіх паводзінах на прыродзе, на гародах. Не хадзілі ў лес на забароненыя ўчасткі. Не збіралі грыбы, ягады ў забруджаных мясцінах.

Але нашых чыноўнікаў, падобна, гэтая праблема зусім не турбуе. Якраз на ўзроўні дзяржавы ўсё робіцца наадварот: забруджаныя зоны аб’яўляюцца чыстымі. Больш за тое, далі адмашку засяваць іх сельсагаспадарчымі культурамі. Ну, а тое, што людзі карыстаюцца ляснымі дарункамі, гэта ўжо лічыцца нармальнай з’явай.Зразумелая справа, што і самі аматары гэтых дарункаў на ўсе перасцярогі махнулі рукой. Толькі вось ня хочуць яны зразумець, чаму на нашых чэрыкаўскіх, як і на іншых могілках у Магілёўскай вобласці хутка і месцаў ужо ня будзе для пахаванняў. Там “адбудаваны” ўжо цэлы горад крыжоў і помнікаў. І раскінуўся ён аж да самага лесу. Зусім за кароткі прамежак часу.

Чым жа займаліся чыноўнікі ў той час, калі яны павіны былі бараніць людзей ад радыяцыйнай навалы? Каротка гэты працэс у нашым Чэрыкаўскім раёне можна апісаць такім чынам. Па-першае, адсялілі жыхароў, па сутнасці, ўсяго засожжа. Па-другое, сталі закопваць вёскі, з якіх былі адселеныя людзі. Але перш, чым гэтыя вёскі закапаць, чыноўнікі ўсіх узроўняў вывезлі сабе лепшыя двары для сваіх патрэб. А двары ў вёсках былі дыхтоўныя, вялікія, ашалёваныя, пафарбаваныя. Ну,а халупкі завалілі зямлёй. І гэта была масавая з’ява. Тут наменклатура праявіла ўвесь свой спрыт. Яна меркавала так: а хто праверыць, хто дакажа? Тыя, хто вывозілі, ведалі, што закопанае ніхто адкопваць ня будзе! Ды яны самі былі пры ўладзе. А хто ж будзе правяраць сам сябе! Таму цягнулі, цягнулі, ды яшчэ шмат разоў цягнулі. Халява ж! Ды й цягнуць было адкуль: закапалі ажно дваццаць пяць вёсак(!) толькі ў нашым Чэрыкаўскім раёне. Зараз, калі стаіш на гэтых мясцінах, нават і не здагадаешся, што ўсяго

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## ЯН КАРАЛЬ ХАДКЕВІЧ

*(Працяг. Пач. на стар. 5)*

Яна Замойскага з арміяй Міхая Мужнага адбылася ў ваколіцах Плаешці 20 кастрычніка 1600 года і скончылася перамогай Замойскага. Хадкевіч былі ў перадавым атрадзе дабраахвотнікаў, якія асабліва прычыніліся да перамогі. Гетман Ян Замойскі сярод лепшых вояў вылучаў Я. К. Хадкевіча.

Падчас барацьбы ў Маскоўскай дзяржаве паміж Ілжэдзмітрыем І і Барысам Гадуновым, і потым, пасля забойства Ілжэдзмітрыя І, сярод кіроўных колаў Рэчы Паспалітай папулярным быў план стварэння славянскай федэрацыі — Рэчы Паспалітай з далучэннем да яе Русі ў якасці трэцяга чальца федэрацыі. Гісторыкі сцвярджаюць, што Гетман Ян Караль Хадкевіч выступаў супраць дапамогі Ілжэдзмітрыю ІІ і нават выказваў сваё незадавальненне каралю. Як вядома, Ілжэдзмітрый ІІ паходзіў са Шклова і, магчыма, Ян Хадкевіч асабіста ведаў гэтага чалавека не з лепшпга боку. Каралю прыйшлося прыкласці шмат намаганняў, каб пераканаць Хадкевіча ўдзельнічаць з войскам у вайне супраць Маскоўскай дзяржавы. Урэшце Ян Караль Хадкевіч згадзіўся на прапанову караля ўзначаліць войска для дапамогі гарнізону ў Маскве. На пачатку восені 1611 года ён сабраў у Шклове 2500 жаўнераў, запасы харчавання і амуніцыі і накіраваўся ў Маскву. Яго намаганнямі запасы харчавання былі дастаўлены ў Маскву для "апазіцыйнага" гарнізона Крамля. Але ў канцы лета — пачатку верасня 1612 года Хадкевіч быў адбіты маскоўскімі паўстанцамі. Хадкевіч спрабаваў увайсці ў горад з поўдня, прайшоўшы праз Данскі манастыр, праз Калужскую браму. Яго войску ўдалося прабіцца ў Замаскварэчча і дайсці да вуліцаў Вялікая Ардынка і Пятніцкая. Спробы прарвацца да Крамля і Кітай-гораду не ўдаліся. Гэта вырашыла лёс крамлёўскага гарнізона. 6 снежня 1612 года гарнізон капітуляваў.

У 1618 годзе падчас новага паходу на Маскву ў войску Яна Караля Хадкевіча налічвалася 14 тысяч чалавек, у тым ліку каля 5500 пяхоты. Войска заняло сяло Тушына на поўнач ад Масквы і пачало рыхтавацца да штурму сталіцы. На дапамогу Хадкевічу прыйшло з Украіны 20-тысячнае казацкае войска на чале з гетманам Пятром Канашэвічам-Сагайдачным. Пачаўся новы штурм Масквы праз Цвярскую і Арбацкую брамы, але ён быў адбіты. У выніку перамоваў 11 снежня 1618 году ў сяле Дэўліне (каля Тройца-Сергіева манастыра) было падпісанае перамір'е. Расея адмовілася ад прэтэнзіяў на смаленскую, чарнігаўскаю і северскую землі, якія цяпер вярталася ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

А ў хуткасці пачалася вайна з супраць Турцыі і крымскіх татараў. Ян Хадкевіч зноў узначаліў галоўнае камандаванне над узброенымі сіламі Рэчы Паспалітай. Аднак гады, праведзеныя на войнах, паўплывалі на яго здароўе. Я. К. Хадкевіч усё часцей хварэў. Памёр Ян Хадкевіч

*(Заканчэнне на стар. 8)*

## ДА ДНЯ ЧАРНОБЫЛЯ

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

толькі дваццаць дзевяць год таму тут віравала людское жыццё. Зараз - парасло ўсё лесам ды хмызняком.

А людзі і ня ведалі б нічога аб усёй трагэдыі, якая звалілася ў літаральным сенсе слова, на нашы галовы ў тую красавіцкую ночку, калі б не апазіцыя Беларускага Народнага Фронта ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання нашай Рэспублікі. Толькі дзякуючы невялічкай групоўцы адважных дэпутатаў ад апазіцыі была агучана антынародная палітыка кіраўнікоў былога саюзу, па загаду якіх людзі хадзілі пад пякучымі радыяцыйнымі промнямі на дэманстрацыі ды мітынгі.

Ды і зараз нашы кіраўнікі ня вельмі імкнуцца раскрываць вочы народу, а наадварот, стараюцца "замазаць" праблемы, якія, як хмара, вісяць над нашай краінай. Штосьці ня бачна, каб 26 красавіка на дзяржаўным узроўні ў нашай сталіцы Менску прайшоў шматлюдны мітынг з удзелам шырокага кола грамадства, каб былі агучаныя нашыя праблемы ды шляхі іх вырашэння.

Дэмакратчныя суполкі нашай Магілёўскай вобласці традыцыйна ладзяць мерапрыемствы, прымеркаваныя да трагічнай даты. Апошнія некалькі год яны праводзяць акцыю пад назвай "Чарнобыльскі шлях". Пачынаючы ад мемарыяльнага комплекса захаваным вёскам, які месціцца ў раённым цэнтры Чэрыкаў і далей наведваючы тыя мясціны, дзе раней знаходзіліся прыгожыя вёскі Веприн, Чудзяны, Малінаўка, ўдзельнікі акцыі прыбіраюць тэрыторыі вакол памятных камянёў, запальваюць свечкі, ускладваюць кветкі, прымацоўваюць стужкі з нацыянальнай сімволікай. Якія, дарэчы, зрываюць, хутчэй за ўсё, мясцовыя ўлады. На чыноўнікаў, між іншым, нацыянальная сімволіка дзейнічае, як на быка чырвоная ануча.

Ну а я часта ўспамінаю падзеі 1993 года. Дэмакраты Магілёўшчыны тады ладзілі Дзень Смутку ў абласным цэнтры. У кінатэатры "Чырвоная зорка" была праведзена канферэнцыя на адпаведную тэматыку, на якой выступілі палітычныя ды грамадскія дзеячы, такія, як старшыня абласной арганізацыі БНФ "Адраджэнне" Анатоль Фёдараў, знакаміты народнафронтавец Віктар Івашкевіч, барацьбіт за справядлівасць - рэдактар рэгіянальнай газеты "Сельскія навіны" Васіль Старавойтаў ды іншыя. Потым удзельнікі марша прайшлі калонай са звонам па цэнтральнай вуліцы Першамайская горада Магілёва. І ў заключэнне акцыі - на кацеры праплылі ўверх па Дняпру і скінулі ў ваду сем вянкоў.

***Сямён Панізоўцаў***

## ЯН КАРАЛЬ ХАДКЕВІЧ

*(Заканч. Пачатак на стар. 5, 7)*

24 верасня 1621 года. Хоць камандзіры спрабавалі захаваць гэтую вестку ў таямніцы, каб не аслабіць баявы дух жаўнераў, ягонае войска хутка даведалася і, калі перавозілі ў замак Хоцін яго цела, жанеры сталі ў строй і аддалі вайсковае шанаванне сваму палкаводцу. У хутксці война закончылася перамогай. Султан забараніў крымскім татарам нападаць на Украіну.

Цела Хадкевіча была дастаўлена ў Камянец-Падольскі, дзе ён быў пахаваны 14 кастрычніка 1621 году. Летам 1622 года, удава Хадкевіча дамаглася экзгумацыі, і Хадкевіч быў перапахаваны ў рэзыдэнцыі князёў Астроскіх — горадзе Астрогу на Валыні ў чэрвені таго ж года. Труна была эвакуявана з Астрогу падчас паўстання Хмяльніцкага ў 1648 годзе, і вернутае туды зноў у 1654 годзе. Яшчэ раз рэшткі Хадкевіча былі перапахаваныя ў новую магілу ў Астрогу ў 1722 годзе.

У Яна Караля Хадкевіча засталася спадчына. У тым ліку горад Шклоў і Шклоўскае графства. Праўда, застаіся і даўгі, якія дасягалі 100 тысяч злотых. Патрыёт сваёй дзяржавы, Ян Караль Хадкевіч ахвярна пералічаў асабістыя грошы на войска і да апошняга моманту бараніў сваю Айчыну.

Нажаль, сёння імя Яна Хадкевіча адсутнічае ў тапаніміцы горада Шклова. Пра тагачасныя падзеі не паглядзім і кінафільм па нацыянальнаму каналу. Між тым, добра было бы, каб беларускія байкеры, пад старажытнымі сцягамі таго часу, здзейснілі вандроўку у Маскву і праехалі тыміж мясцінамі, дзе некалі праходзілі беларускія ваяры пад кіраўніцтвам Яна Караля Хадкевіча.

***Аляксандр Грудзіна***

## ЛЮБИМОМУ БОГУ

Я часто в бессилии плачу,
Всё как-то пытаясь понять,
Куда подевалась удача?
Как жить, мне хотелось бы знать?

Лишь Ты подаёшь мне надежду,
Лишь Ты поднимаешь мой дух.
Тебе безгранично я верю
И всё доверяю вокруг.

Не знала я лучшего счастья,
Не знала я большей любви.
Сравнив свою жизнь всю сначала,
Доверила дни все свои.

Тебя за всё благодарю я,
За все страдания и боль.
Тебя всецело принимаю
Отсюда крепкая любовь.

Не зря живу на этом свете,
Не зря свой хлебушек жую.
Несу благую весть я детям,
Их, в жизни, верности учу.

В своём бессилии, сражаясь,
Пока живу, пока дышу,
Я чётко верую и знаю,
Что всю изменишь жизнь мою.

Что то, о чём всегда мечтала.
Мой каждый день и каждый вздох
Оставит на земле след, память.
Такой, чтоб пригодиться смог.

* * *

Дай мне сердце доброе и нежное,
Как твоё, о Боже, как твоё…
И любовь в него вложи безбрежную.
И дай сил мне тоже на неё.

Дай мне силы, Боже, дай мне силы!
Только об одном тебя прошу.
И помилуй, Господи, помилуй!
Дай здоровья мне, пока дышу…

* * *

В эгоистичном мире,
Средь мелочных людей,
Словно в пустой квартире,
Живешь и ночь, и день.

Но я всегда с надеждой
В озлобленных глазах
Ищу людскую нежность
И доброту – не страх…

## ОЧАРОВАННАЯ

Попрошу отворотного зелья
У дремучей колдуньи лесной,
Чтоб во имя святого спасенья
Не ходила я вслед за тобой.

Затворю свои двери покрепче,
Стану варево смертное пить.
Только б знать, что тебе будет легче,
Только б верить, что можно забыть.

Ты! – Как тысяча стрел в одночасье,
Как живая вода на лугу…
Не прощайся со мной! Не прощайся!
Всё равно без тебя не могу…

* * *

У меня есть только ты
И разбитые мечты.
На руинах восседаю
И осколки собираю.
Склеится – не склеится?
В жизни, разумеется.

* * *

Спать пора! Уснул сынок.
Лёг тихонько на бочёк.
Снится улица и дом,
Он тревожится сквозь сон.

Любит книжку и тетрадку,
Пишет цифры по порядку,
Где под номером один,
Слово – мама, приходи!

Смастерил отцу машину,
А для бабушки – коньки.
Он уже свою вершину
Видит сказкам вопреки.

***Светлана Игнатович***

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 07.05.2014 г. у 11-00.